# РАНІЦА

Berlin, 30. Januar 1944 Nr. 5/167

„RANICA"
Weißruthenische Zeitung in Deutschland
„Der Morgen"

БЕЛАРУСКАЯ ТЫДНЁВАЯ ГАЗЭТА Ў НЯМЕЧЧЫНЕ

Год выданьня 6. Цана/Preis 20 Pf.

Адрыс Рэдакцыі: «Ranica», Berlin NW 87, Schließfach 34. Падпіска разам зь перасылкай на год — 10 RM, на паўгоду — 5 RM, на 3 мес. — 2,50 RM. Цана асобнага нумару 20 фэніг. Postscheckkonto: Berlin Nr. 2159 95 «Ranica», Weißruthenische Zeitung in Deutschland.

БЭРЛІН
Нядзеля, 30 студзеня 1944 г.

Verlag »Ranica«, Berlin NW 87, Schließfach 34. Bezugspreis mit Zustellgebühr für 1 Jahr 10 RM, für 1/2 Jahr 5 RM, für 1/4 Jahr 2,50 RM. Die einzelne Nummer kostet 20 Pf. — Postscheckkonto: Berlin Nr. 2159 95 »Ranica«, Weißruthenische Zeitung in Deutschland.


## Адзінаццаць год вялікага ўздыму

30-га студзеня мінае 11 год, калі Адольф Гітлер узяў уладу ў свае рукі, каб кіраваць доляй свайго народу.

30-га студзеня 1933 году тагачасны дзяржаўны прэзыдэнт Гіндэнбург аддаў лёс Нямеччыны ў рукі Адольфа Гітлера — Правадыра нямецкіх нацыянал-сацыялістых.

Ад таго часу пачалося хуткае адраджэньне нямецкага народу, пачаўся вялікі духовы ўздым Нямеччыны, прыгнечанай вэрсальскім трактатам. Гэта быў таксама паваротны пункт у гісторыі ўсяе Эўропы.

Узяўшы кіраўніцтва сваім народам, Адольф Гітлер перадусім пачаў зьдзейсьняць тую мэту, якую вызначыла ягоная нацыянал-сацыялістычная работніцкая партыя. А галоўнай мэтаю гэтай партыі было вярнуць гонар нямецкаму народу і парваць ланцугі Вэрсалю, у якія быў закуты нямецкі народ. Апрача гэтага трэ' было аздараўляць палітычнае, гаспадарскае, культурнае і навуковае жыцьцё Нямеччыны. Трэ' было злучаць падзеленую Нямеччыну, трэ' было падняць дух нямецкага народу і даць яму надзею і веру ў перамогу, трэ' было зьліквідаваць беспрацоўе і даць моладзі жыцьцёвую бадзёрасьць і радасьць у працы.

Натужная праца Правадыра не дала доўга чакаць на вынікі. Ад першага-ж году пасьля абняцьця ўлады пачаўся вялікі ўзварух усяго нямецкага народу. У хуткім тэмпе паўстаюць партыйныя арганізацыі ўва ўсіх галінах грамадзкага, гаспадарскага, культурнага і палітычнага жыцьця Нямеччыны. Адбудоўваецца слаўная нямецкая армія, арганізуецца моладзь, ліквідуецца беспрацоўе. Мільёны новых людзей уступаюць у партыю, а нямецкая моладзь масава ўліваецца ў баёвыя партыйныя аддзелы СА і СС.

Узварушылася Нямеччына. Задыміліся фабрычныя каміны. Запаяяла слаўная нямецкая армія песьні пра новую Нямеччыну. Загучэла нямецкае лятунства, загрукацелі новапабудованыя танкі.

І паўстала сіла, а з ёю і радасьць усяго нямецкага народу, які адчуў, што ўзыйшоў на свой правільны шлях і што гэтым шляхом вядзе яго вялікі нацыянальны Правадыр—Адольф Гітлер.

І сталася, што правадыр, партыя і народ — адно.

Адзін правадыр, адзіны народ, адна дзяржава.

Калі правадыр пабачыў, што ўжо ўвесь нямецкі народ унутры скансалідаваны і духова адроджаны, дык пачаў дзеяць і на вонкі, пачаў паступова скідаць ланцугі ганебнага Вэрсальскага трактату. Але тварцы гэтага трактату — сусьветнае жыдоўства і ангельска-амэрыканскі плютакратызм адкінулі мірныя прапановы перагляду вэрсальскай крыўды, стварэньня новага справядлівага парадку ў Эўропе і пачалі вайну, якую мы цяпер перажываем.

І ворагі пры аблічэньні сваіх сілаў памыліліся. Якімі сродкамі яны не выступалі-б супроць Нямеччыны, дык усё роўна немцы будуць стаяць за іх вышэй, бо прайшлі ўжо праз адзінаццацьгадовую школу нацыянал-сацыялізму і тым навучыліся змаганьня і веры ў собскія сілы.

Апрача гэтага немцы не адны, але ў саюзе з іншымі народамі, з якімі маюць супольную, вялікую мэту — абарону Эўропы і ейнай цывілізацыі ад плютакратычна-бальшавіцкай навалы.

Хто будзе пераможцам, паказвае ўжо сяньня вера ў перамогу, якую мае нямецкі народ і асабліва тая бязбоязьнь сьмерці, тая ахвярнасьць нямецкіх жаўнераў, якія ў надлюдзкім змаганьні ўжо сяньня працягваюць рукі, каб схапіць перамогу. А гэтая перамога нацыянал-сацыялістычнай Нямеччыны і яе саюзьнікаў вызваліць сьвет ад панаваўшага дасюль бязладзьдзя і дадуць сьвету тое аблічча, якое ўжо сяньня пачынае вырысоўвацца ў сваіх абразах.

---



Беларуская моладзь у радах паліцыі вывучае зброю

## Напружыць усе сілы супроць бальшавіцкага імпэрыялізму!

### Зварот Прэзыдента Беларускае Цэнтральнае Рады да Беларускага Народу

Беларусы!

Кажны народ ставіць перад сабою мэту дасягненьня вольнага і шчасьлівага жыцьця, разьвіцьця сваіх духовых здольнасьцяў і стварэньня матар'яльнага дабрабыту. Таксама мы, беларусы, будучы жыцьцяздольным і працоўным народам, маем гэтую мэту і ад стагодзьдзяў змагаліся за яе ажыцьцяўленьне.

Аднак нашыя ворагі ня хочуць, каб нашая Бацькаўшчына была вольнаю і дзеля гэтага яны яе зруйнавалі, а найлепшых сыноў нашага народу зьнішчылі. Ніхто лепш за нас ня ведае колькі ахвяраў вымагала ад нашага народу гэтае стагодзьдзямі трываючае змаганьне. З усіх аднак ворагаў, што панавалі ў нашай краіне, найбольш небясьпечным была жыда-бальшавіцкая Масква, якая ня толькі руйнавала нашую культуру і гаспадарку, але нішчыла наш народ.

Мы ведаем таксама, што ворагам не ўдалося зламаць наш баёвы дух. На месца паўшых паўставалі новыя змагары. Беларускі нацыянальны рух рабіўся штораз дужэйшым і ахапляў штораз шырэйшыя пласты народу. Мы мелі нязломную веру ня толькі ў духовую сілу нашага народу, але і ў тое, што панаваньне нашых ворагаў ня будзе трываць вечна. І мы не памыліліся.

У 1941 годзе магутная нямецкая армія пад правадырствам Адольфа Гітлера выгнала бальшавіцкі тэрор з нашага краю і адчыніла новыя магчымасьці нашай працы і змаганьня за свабоду нашай Бацькаўшчыны. Беларускі народ з вялікаю радасьцю прывітаў сваіх вызваліцеляў і ў змаганьні супроць апошняга ворага бальшавізму маршыруе на баку слаўнае нямецкае арміі.

Распачалася адбудова нашага нацыянальнага жыцьця і краю. Не зважаючы на тое, што ваенныя абставіны не заўсёды дазвалялі нам выкарыстаць ўсе магчымасьці, аднак з чыстым сумленьнем мы можам сьцьвердзіць, што мы ў працягу гэтых двух з паловаю гадоў зрабілі не малыя поступы. Нямецкае кіраўніцтва разумела нас і, паколькі дазвалялі ваенныя абставіны, дапамагала нам у нашай працы.

Цяпер нямецкае кіраўніцтва паставіла нам вялікае пастанаўляючае заданьне. У прызнаньні нашае фанатычнае ненавісьці да жыда-бальшавізму і, не зважаючы на трываючыя ваенныя абставіны, Спадар Гэнэральны Камісар Беларусі фон Готтбэрг абвесьціў 21 сьнежня 1943 году на ўрачыстым зьезьдзе прадстаўнікоў усіх пластоў беларускага народу заснаваньне Цэнтральнае Беларускае Рады. Згодна із статутам Цэнтральная Рада ёсьць праўна прызнаным прадстаўніцтвам беларускага народу і мае заданьне мабілізаваць усе творчыя сілы беларускага народу для канчатковае перамогі над бальшавізмам і поўнасьцю вызваліць беларускі народ з-пад крывавага бальшавіцкага панаваньня. У рамах гэтага заданьня Беларуская Цэнтральная Рада мае права і абавязак складаць нямецкаму кіраўніцтву ўсе неабходныя прапазыкі. Адсюль вынікае, што ў нашай працы і змаганьні за собскі народ і Бацькаўшчыну нам дадзены новыя вялікія магчымасьці.

Беларусы!

Мы ўсе ведаем, што наш сьмяротны вораг — бальшавіцкая Масква, ня хоча бачыць наш народ і нашую Бацькаўшчыну вольнай. Дзеля гэтага ён кідае свае дзікія горды супроць нашага краю і напаўняе нашыя лясы сваімі бандамі. Толькі дзеля гэтага ён нішчыць нашыя культурныя ўстановы, паліць нашыя школы, вядзе супроць нявіннага жыхарства нашых гарадоў вайну бомбамі, забівае з-за вугла найлепшых сыноў нашага народу. Ён робіць гэта, каб ізноў накінуць нам сваё праклёнае ярмо, ад каторага нас вызваліла нямецкая армія.

Ці павінны мы пайсьці ў гэтае ярмо? Ніколі!

Мяноўна дзеля гэтага мы мусім згуртаваць у творчай працы для нашай Бацькаўшчыны ўсе нашыя сілы для выкарыстаньня вялікіх магчымасьцяў, якія даў нам дзень 21-га сьнежня 1943 году і ані на хвіліну не забываць, што нашым першым абавязкам ёсьць змаганьне супорць бальшавіцкае Масквы, а перадусім зьнішчэньне бальшавіцкіх бандаў, якія руйнуюць наш край. Яны павінны быць зьнішчаныя да апошняга бандыта. І тут нямецкае кіраўніцтва дае нам вялікія магчымасьці. 21-га сьнежня 1943 году Спадар Гэнэральны Камісар абвесьціў, што прадбачыцца разбудова абаронных вёсак, а дасюлешняя беларуская паліцыя, а таксама іншыя аддзелы, што вядуць гэройскае змаганьне супроць бандытаў, будуць паважна павялічаны. Ад нас залежыць выкарыстаць гэтыя магчымасьці. Кажная беларуская вёска павінна зрабіцца для бандытаў цытадэляю, якую немагчыма здабыць, кажны беларус і беларуска павінны прыняць актыўны ўдзел у зьнішчэньні бальшавіцкага гнязда ў нашых лясох. Калі мы ўсе выступім ахвярна на гэтае змаганьне, тады дні бандытаў ў нашай краіне палічаны!

Беларусы!

Мы ўсе ведаем, што вялікія падзеі, якія мы перажываем, пастанаўляюць таксама аб нашай будучыні! Ад нас залежыць, каб яны былі для нас шчасьлівыя і, каб нашая Бацькаўшчына, пасьля стагодзьдзямі трываючага ўпадку, ізноў была вольнаю.

Дзеля гэтага я, як Прэзыдэнт Цэнтральнае Рады, заклікаю Вас да рэшты напружыць усе сілы ў працы і змаганьні за нашую Бацькаўшчыну супроць нашага апошняга ворага—бальшавіцкага імпэрыялізму. Ніхто не павінен у гэтак важную хвіліну стаяць звонку, як глядач, бо падобныя паводзіны абазначаюць сьмерць для яго і для іншых.

Я заклікаю таксама часткі іншых народаў, якія ад стагодзьдзяў, або, дзякуючы ўдарам лёсу, знаходзяцца ў Беларусі, да супольнага змаганьня.

Бальшавізм нясе тыя-ж небясьпекі для ўсіх народаў. А таму сябры да працы і змаганьня за канчатковую перамогу над бальшавіцкаю Масквой!

Хай жыве слаўная Нямецкая Армія і Яе Правадыр Адольф Гітлер!

Хай жыве Вольная Беларусь і Беларускі Народ!

Менск, 10 студзеня 1944 г.

Прэзыдэнт Цэнтральнае Беларускае Рады Р. АСТРОЎСКІ.

---

### БАМБАРДАВАНЬНЕ ЛЁНДАНУ

Нямецкія моцныя лятунскія эскадры ў ночы на 22. І. у шматлікіх хвалях заатакавалі Лёндан. У выніку наглядаліся вялікія пажары.

# Весткі з фронту

За апошні тыдзень Сталін далей безпашчадна наганяў масы сваіх нешчасьлівых ахвяраў на агонь нямецкіх пазыцыяў. Міма аграмаднае натугі з савецкага боку, нямецкі ўсходні фронт далей стаіць непахіснуты на старой лініі, стрымваючы пасьпяхова бальшавіцкую навалу, з кожным днём ломячы яе ваенную моц.

Паведамленьне з галоўнае кватэры Фюрэра за 25. I. 44. гэтак звучыць:

Ля Керча бальшавікі ўзмацнілі свае натугі. Варожыя атакі пры супрацоўніцтве танкаў і лятунства трываюць далей.

На паўночны ўсход ад Кіраваграду бальшавікі атакавалі шматлікімі дывізіямі. У зменнага характару баёх яны былі адбітыя, адно месца уламаньня контратакамі было залатана.

На паўдзёны захад ад Паграбішча нямецкія аддзелы пры актыўнай дапамозе артылэрыі і лятунства, у зацятым бою здабылі цьвёрда ўмацованыя варожыя становішчы. Бальшавіцкія контратакі былі безнасьледкаў. Змаганьне трывае далей. Між Прыпяцяй і Бярэзіной бальшавікі ўзноў панавілі жорсткія спробы праломкі, якія ў зацятых баёх былі адбіты. Малыя ўламаньні былі залатаныя.

Гэтаксама на поўнач ад Ільмян возера і на поўдзень ад Ленінграду праводзяць бальшавікі спробы праломкі з нарастаючай сілай. Калі на паасобных адрэзках яны ўжо адбітыя на іншых трываюць далей зацятыя баі з пераважаючымі сіламі ворага.

### У ПАЎДЗЁННАЙ ІТАЛІІ

Наглядаючы дармовую натугу свайго ўсходняга хаўрусьніка, амэрыканцы ажывілі дзейнасьць на італьянскім фронце. Раніцай 22. I. яны зрабілі высадку па абодвых баках Неттуно ад стараны Тыррынскага мора. Нямецкія супроцьмерапрыемствы ў ходу. Толькі ў першай стадыі яны далі затапленьне 4 вялікіх транспартных караблёў на 12.000 бр. р. т., пашкоджаньня 8 большых марскіх адзінак. Зэнітная артылэрыя састрэліла пры гэтым 13 варожых самалётаў.

На заходнім адрэзку італьянскага фронту нямецкія аддзелы адбілі з высокімі і крывавымі стратамі для ворага ягоныя артылэрыяй і лятунствам падтрыманыя атакі.

У раёне высадкі ля Неттуно вораг атакаваў на шматлікіх адрэзках нямецкія форпосты. Гэтыя атакі былі адбітыя. Собскія разьведчыя патрулі далі палонных. Лятунства ноччу і днём атакавала пасьпяхова варожую высадкавую флёту ля Анцыё. Паводле першых паведамленьняў затоплена 3 зьнішчальнікі і адзін гандлёвы параплаў на 6.000 брт. Трэба прыняць як пэўнае зьнішчэньне трох іншых параплаваў на агульную колькасьць 26.000 брт. 11 транспартоўцаў было часткова цяжка пашкоджаных.

### ВЯЛІКІЯ ПОСЬПЕХІ ЯПОНСКАГА ЛЯТУНСТВА

Паведамленьне галоўнае японскае кватэры з 25. I. падало да ведама, што эскадры марскога лятунства як і флёты састрэлілі 125 варожых самалётаў, якія ў агульнай колькасьці 530 апаратаў пробавалі атакаваць 22 і 23. I. Рабаўль. Да гэтага прыняць 22 апараты, якія трэба лічыць праўдападобна састрэленымі.

---

### НОВАЯ ПОЛЬСКАЯ САВЕЦКАЯ ДЫВІЗІЯ

Як паведамляе замежная прэса, у Савецкім Саюзе створана новая польская дывізія. Перад прыняцьцем у дывізію польскія жаўнеры павінны былі складаць прысягу, у якой між іншым гаворыцца:

«Прысягаю вернасьць Савецкаму Саюзу і прысягаю ўтрымліваць братэрства з савецкай арміяй».

Гэта зьяўляецца новым доказам мэтадаў бальшавіцкіх уладароў і сьцьвярджае, што Саветы лічаць палякоў, як сваіх «саюзьнікаў».

Можна спадзявацца, што лёс гэтай новай польскай дывізіі будзе падобны лёсу дывізіі імя Тадэўша Касьцюшкі.

### ЗАПРАЎДЫ ПА АМЭРЫКАНСКУ

У ЗША чакаецца ўвядзеньня абавязковай ваеннай дапаможнай службы для жанчынаў, таму што ня гледзячы на шырокую кампанію па прыцягненьні дабраахвотнікаў у жаночы дапаможны корпус, лік іх вельмі малы. «Нью Він» адзначае, што арганізацыя «жаночай службы арміі і флёту» выкарыстоўваецца большасьцю яе сяброў для флірту і магчымасьці выйсьці замуж.

Для ўсяе гэтае гісторыі тыповым зьяўляецца яшчэ адзін факт. «Жанчын-матросаў», ня гледзячы на афіцыйную перасьцярогу, немагчыма ўстрымаць ад татуіроўкі на плячах, дзе яны заўсёды адзначаюць палкавы нумар свайго сябры.

### ЯГАДКІ АНГЕЛЬСКАЕ АПЕКІ

Эксплёатацыйная ангельская палітыка, якая імкнулася заўсёды да найвышэйшае ступені выкарыстаць зямлю і народ нічога не даючы ў замен, мае асабліва яркі прыклад сёлета ў Індыі. Эксплёатаваная краіна пры сёлеташнім неўражаі дасьветчыла цяжкога голаду, які каштаваў масы людзкога жыцьця. Аб разьмеры вялікіх індыйскіх ахвярах і адначасна аб раўнадушнасьці ангельцаў да падбітых нацыяў можа паказваць асьветчаньне ў парлямэнце ангельскага міністра Індыі Л. С. Амэры.

«Як дасюль няма яшчэ пэўных лічбаў, аднак урад Індыі лічыць, што агульная лічба ненармальнае сьмерці па прычыне голаду і пошасьцяў за апошнія 5 месяцаў 1943 году не перавышае мільёна людзей.»

Камунікат Індыйскае лігі падае гэтую лічбу на два мільёны. Адны лічбы гавораць за сябе. Яны зьяўляюцца за шмат яркім доказам ангельскае гуманнасьці па адносінах да паняволеных народаў.

### АДКАЗ ВОРАГАМ ПРАЦОЎНЫХ НЯМЕЧЧЫНЫ

У суботу 22. I. 44. у Ваймары, у горадзе народжаньня двух найвялікшых нацыянальных нямецкіх паэтаў, Шылера і Гэтэ, прамаўляў да шматлікіх тысячаў працоўных кіраўнік дзяржаўнае працы гаўляйтэр і райхсштатгальтэр **Фрыц Заўкэль.**

У палкіх словах гаўляйтэр Заўкэль прадставіў надлюдзкую натугу нямецкага жаўнера, якая гэтае самае жадае ад бацькаўшчыны. Кажны працоўны сваёй працаю дапамагае ў вырашальным і гістарычным гэтым змаганьні. Ня толькі самага тэмпа вымагае сучасная цьвёрдая хвіліна, яна таксама жадае і прадукцыі працы, бо яна зьяўляецца гэтаксама рашучым крокам да перамогі, як учасьце жаўнера на фронце.

Заклік гаўляйтэра Заўкэля прысутныя працоўныя прынялі бурнымі воплескамі, якія паказвалі на поўную салідарнасьць са словамі прэлегэнта.

---

**З беларускага жыцьця у Нямеччыне**

### КУЦЬЦЯ Ў КЭНІГЗБЭРГУ

Кэнігзбэргскі Аддзел БКС шануючы традыцыю Калядных Сьвятаў 25-га сьнежня зарганізаваў для сваіх сяброў куцьцю. Куцьця пачалася вечарам а 6-й гадз. у адным з кэнігзбэргскіх рэстаранаў. Прысутнічала 120 сяброў і апрача гэтага колькі запрошаных гасьцей. Старшыня Аддзелу ў кароткіх словах прывітаў і злажыў усім прысутным сьвяточныя і навагоднія пажаданьні, а беларускі хор выканаў колькі народных калядных песьняў. Падчас супольнай вячэры сябры выступалі з дэклямацыямі патрыятычнага і гумарыстычнага зьместу. Пасьля ізноў выступаў хор і ў канцы аркестра, якая выконвала беларускія народныя песьні і танцы. Вечар прайшоў у вельмі вясёлым і мілым настроі і закончыўся ў 11 гадз.



**СЬВЯТЛО ЯКОЕ ГАВОРЫЦЬ**

**На камяністых горных адвалах загад перадаецца ад скалы на скалу. Грэнадзер гаворыць у мікрафон а сьветлавы апаратператварае ягоныя словы ў праменьні, якія ў далёкім прыёмным апараце ізноў ператвараюцца ў словы. Паведамленьне ня можа быць перанятае ворагам. Гэтак нямецкая армія скарыстоўвае ў сучаснай вайне навейшыя дабычы тэхнікі.**

## У некалькі радкох

◆ У Індыі незвычайна пашырылася халера, прыкладам, сьмяортныя выпадкі ад гэтай пошасьці ў Бэнгаліі цяпер лічаць на 4.000 у тыдзень.

◆ Страты францускага мірнага жыхарства ад тэрарыстычных англа-амэрыканскіх налётаў дасягнулі ў 1943 годзе 7.449 забітых і 14.656 раненых.

◆ Афіцыйна з Галоўнай Кватэры Дучэ паведамляюць, што ад пачатку сьнежня на паўдзённым італьянскім фронце побач з немцамі змагаецца каля 14.000 італьянцаў.

---

### З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ Ў ВАРШАВЕ

У нядзелю 16-га студзеня, у памешканьні Беларускага Камітэту ў Варшаве адбыўся агульны сход сяброў. З дакладам аб праробленай Камітэтам працы ў 1943 годзе і аб заданьнях на бліжэйшы пэрыяд выступіў старшыня Камітэту сп. Др Мікола Шч[illegible]с.

Між іншым на сходзе быў вын[illegible]чы пратэст супроць бальшавіцкіх захопніцкіх пасяганьняў на беларускія землі, у якім характарызуецца воля беларускага народу да змаганьня за сваю свабоду. Гэты пратэст - рэзалюцыя перададзена адпаведным палітычным дзейнікам. **Прысутны.**

---

**Андрэй Ламанскі.**

# Беларуская праўда

**«Ленінская праўда» наадварот**

(Казка)

Жыло ў калгаснай вёсцы трое братоў. Поле яны аралі, зямлю сьлязьмі горкімі палівалі ды гарбы сабе нажывалі. Не жылі, а гаравалі. Хлябок і скаціну іхную бальшавікі-душагубы і жыды-паразыты забіралі, а плацілі за гэта турмамі ды Салаўкамі.

Жылі браты ня год і ня два, а шмат гадоў жылі-пакутвалі. А гэтак-жа саменька ўдаўжкі і ўшыркі на усёй зямельцы беларускай жылі і ўсе калгасьнікі-няшчасьнікі. Не жылі, а гнілі, — пакутнікам другое паншчыны былі.

Дадзела і абрыдла братом рабіць на чужаедаў-жыдзюкоў і людаедаў-бальшавікоў. Думалі, думалі і надумаліся браты ўсю Маці-Беларусь прайсьці, каб праўданьку дзе-небудзь знайсьці.

От ідуць яны тыдзень, другі месяц ідуць браты родныя. Ні кала, ні двара ня бачаць нідзе яны, — пустка ды пустка. Далей ідуць, ідуць і бачаць вёсачка рызавая стрэхамі ў зямлю ўрасла. Пасярэдзіне тае вёсачкі, на сам-самым узгорачку — царква маўклівая, безваконная, а блізу яе — клюб толькі-што збудаваны, вялікі, прыгожы.

Укленчылі браты, першай на шляху царкве колішнай пакланіліся. І ў кажнага брата дзьве буйных сьлязы на пясок сыпучы скаціліся. Доўга плакалі браты каля сьвятога месца.

Гэтым часам ішла бабулька старэнькая з дзяўчынкаю. Убачыла яна братоў, стала ды пытаецца:

— Чаго вы плачаце, сынкі мае дурненькія? Мы сваімі сьлёзкамі напаілі зямельку гэтую... Леташняя вясна бацьку, унучкі мае праз гэтую цэркаўку загубіла... А ўсе людцы таксама ня мёд п'юць... Ідзеце, даражэнькія, каб ліха ня трапілася вам.

— Праўда, бабулька... Масква, кажуць, у сьлёзы ня верыць, — сказаў старэйшы брат.

— Сьлязьмі долі ня высячэш, — сказаў брат сярэдні.

— Праўды шукаць выйшлі мы, — азваўся малодшы.

— Праўда была ды сплыла, сынкі дурненькія... На небе праўда, а ня ў пекле гэтым на зямельцы нашай. Ды ці толькі на нашай... Пекла гэтае самае, кажуць, за моры глыбокія ды лясы высокія даўно пачало распаўзацца.

Думалі браты, думалі і надумаліся яшчэ ў няведамую ім хароміну, што ля цэркаўкі, зайсьціся. Увайшлі. Стадола ды і годзе. Ні чалавека. ні духу ягонага нямашака. На сьценах — Ленін і Сталін, Сталін і Ленін. Нейкія даўжэзныя паперы кругом пачэпленыя. літарамі чырвонымі выпісаныя. Кніжкі ўсюды параскіданыя. Бачаць браты — ідзе да іх нейкі жыдзюк з бакоўкі...

— Хто ві такія будзіці? якая-такая савет хочаце браць у міне? — пытаецца тош жыдзюк, вочы вылупіўшы.

І браты адказваюць яму:

— З пекла мы, з вёскі калгаснае. Гаварылі, бедавалі, жабракамі сталіся. Ня можам жыць далей так. Ідзем праўды шукаць. Навучы нас, як цябе, дзе знайсьці яе?

— Добра, — кажа жыдзюк той, — дам я вам кніжку бацькі нашага. Навука ў ёй вялікая. Там усе праўду знаходзяць...

Стаяць браты і галовамі ківаюць. А жыдзюк тымчасова запісаў на паперы, адкуль браты, хто яны такія і чаго шукаюць. Запісаў і зьнік.

Чыталі браты, чыталі, вочы намазолілі, а праўды так і ня вычыталі. Плюнулі на навуку бацькавай кніжкі і пайшлі далей.

Ідуць яны тыдзень, другі, ідуць месяц. Бачаць — машыны нейкія стаяць, а каля машынаў — вялікі гурт людзей. Усе яны крычаць і чамусьці кулакамі трасуць. Страшна стала братом, але цікавасьць узяла верх: пайшлі да таго гуртку. Сталі браты і слухаюць:

— Ня елі колькі дзён...

— Дзеці пухнуць нашыя ад голаду...

— Машыны слова добрага ня вартыя — ламачы нейкія...

— Самі працуйце, абібокі, круцялі пархатыя...

— Праз бакі вылезьлі вашыя эмтэсы...

— Не, любыя, тут і ня пахне праўдаю, — сказаў сярэдні брат.

— Ідзем адсюль, пакуль на ліха не натрапілі, — адазваўся старэйшы.

Махнулі браты рукамі і далей пайшлі. Ідуць яны тыдзень, другі, месяц ідуць — пустка і пустка. А нарэшце бачаць калгас «Шлях пралетарыяту». Зайшліся ў двор.

— Хто вы такія, — адкуль і чаго шукаеце? — папытаўся старэнькі дзядок.

— З пекла мы, з вёскі калгаснае. Гаварылі, бедавалі, жабракамі сталіся. Ня можам жыць далей так. Навучы нас, дзядуля, дзе праўду знайсьці.

— Праўда была ды сплыла, сынкі мае. На небе праўда, а ня ў пекле гэтым на зямельцы нашай. Ды ці толькі на нашай... Пекла гэтае самае, кажуць, за моры глыбокія ды лясы высокія даўно пачало распаўзацца. Гляньце: было шмат гаспадарак, а цяперака адна, было шмат гаспадароў, а цяперака — адзін, Ёселем завецца ён, былі межы, а цяперака няма ніводнае. Раней зямля была прымацаваная да нас навечна, а цяперака мы прыкутыя да яе навечна. Усяго стае нам: і вады і паветра... Ня было і нямашака праўды, сынкі.

Зноў пайшлі браты. Ішлі яны тыдзень, другі, месяц прышлі ў горад. А ў горадзе там быў якраз вялікі кірмаш... А на кірмашы — гіцляў, гіцляў... Сьвет ня бачыў. Хадзілі браты, хадзілі, ногі адхадзілі, а праўды не знайшлі... Сталі і думаюць, а далей і чуюць:

— Хто вы такія, адкуль і чаго шукаеце — запытаўся адзін гіцаль.

— З пекла мы, з вёскі калгаснае.

# Роднае карэньне

Цяжка пакідаць «роднае карэньне», спрадвечны свой кут, дзе жылі дзяды і прадзеды, дзе ўсё абвеяна ўспамінамі і нейкай асаблівай красой, зразумелай і блізкай толькі таму, хто там радзіўся і жыў. І калі лёс занясе чалавека на чужыну, «родныя абразы» свайго краю заўсёды імгляцца ў ваччу і цягнуць да сябе, вабяць, напаўняючы душу сумам і верай, верай у паварот на Бацькаўшчыну.

Наш беларускі народ ведае добра гэты «сум па Бацькаўшчыне». Бо-ж ня раз прыходзілася нашаму брату-беларусу пакідаць свой край, шукаць кавалак хлеба нейдзе ў Амэрыцы, або Сібіры ці чужых гарадох. Але мы перажылі гэты сум больш глыбока і больш масава ў часе першай сусьветнай вайны, калі хваля ўцекачоў ішла ў далёкі расейскі край. Гарэлі вёскі, па шляхох ішло быдла, ехалі вазы, ішлі людзі, чуўся плач. І кажны аглядаўся назад, дзе ў зараве пажару мо' назаўсёды нікла роднае, блізкае і дарагое. Але беларус моцна быў зьвязаны з сваёй зямлёй, з гэтым «родным карэньнем» і таму, як толькі паўстала магчымасьць павароту на Бацькаўшчыну, усе беларусы ізноў масава вярнуліся на зьнішчаныя свае палеткі, каб адбудаваць «раскіданыя гнёзды». Тады, у часе ўцякацтва, беларусы задэманстравалі сваю глыбокую, бязьмежную любоў да сваёй Бацькаўшчыны, якая для нас найдаражэйшая за ўсё.

Цяпер ізноў гісторыя захацела, каб наш край зрабіўся арэнай вялікага змаганьня. І цяпер наш народ ізноў дэманструе гэтую любоў да сваей зямлі-маці. Але цяпер усё гэта адбываецца ў іншых абставінах. Наш народ у сучасным вялікім змаганьні двух сьветаў актыўна бароніць сябе і сваю зямлю ад навалы бальшавізму. Ён стаіць поплеч з нямецкім народам. Таму, калі сягоньня ізноў агнём заняўся фронт на нашай зямлі, наш народ з усходу пасоўваецца ў кірунку на захад, каб не пакідаць дабытку ворагу, каб гэтым трымацца эўрапэйскага фронту. І калі тысячы і тысячы людзей ідуць цяпер з гэтай паваротнай хваляй, дык яны гэтым самым дэманструюць сваю ненавісьць да бальшавізму, ад якога іх вызваліла Нямецкая Армія. Гэта людзі, якіх больш 20 гадоў мучылі бальшавіцкія насільнікі, забіраючы ў іх родную зямлю і заганяючы іх сілай у калгасную паншчыну. Якая-ж вялікая прывязанасьць да роднага карэньня засталася ў гэтых людзей! Гэта яшчэ раз сьветчыць аб еднасьці нашага народу ў супольным змаганьні супроць бальшавізму. А гэта і ёсьць зарука нашае нацыянальнае перамогі. Прыйдзе час, калі мы ізноў вернемся на свае родныя загоны. Мы верым непахісна ў эўрапэйскую перамогу, а тым самым і наша хваля ідзе на захад.

**Смаленскі.**

# Гінуць змагары, але жыве Беларусь!

«Яшчэ адзін змагар  
Жыцьцёвы скончыў шлях  
Злажыў сваё жыцьцё  
Ў ахвяру за краіну»...

Так, змаганьне не абходзіцца без ахвяр. Асабліва змаганьне за шчасьце Бацькаўшчыны зьяўляецца бязьлітасным пад гэтым поглядам. Раз за разам вырывае яно з нашых шэрэгаў найлепшых сыноў нашае Радзімы, раз за разам прымушае болем і жалем сьціскацца нашыя, незакамянелыя яшчэ як сьлед, крывіцкія сэрцы. 12-га сьнежня 1943 году нашая цярплівая беларуская зямелька прыняла на вечны спакой яшчэ двух змагароў за ейную волю і долю — лейтэнанта Беларускага Батальёну СС Хведара Мялешку і жаўнера гэтага-ж батальёну Курсуновіча Аляксандру.

Лейтэнант Мялешка нарадзіўся 15-га лістапада 1916 году ў шэрай сялянскай хаце ў вёсцы Паплавы, Наваградзкага павету. З малых гадоў чуў ён вялікую цягу да навукі. Бацьком, звычайным беларускім сялянам, ня лёгка было даць сыну тое, чаго ён так хацеў. Аднак, хлапцу ўдалося ўсё-ж дапяць свайго і паступіць у Віленскую Беларускую Гімназію. Скончыўшы гімназію, якая выгадавала з яго шчырага, гарачага беларускага патрыёту, малады Мялешка працаваў нейкі час настаўнікам, а пасьля прыходу немцаў — перайшоў на працу сьпярша ў беларускую адміністрацыю, а пасьля ў Беларускую Самаахову, якая патрабавала шмат мужных, адважных юнакоў на змаганьне з заўзятым ворагам нашае Бацькаўшчыны — бальшавізмам.

Калі ў Менску зарганізаваўся Беларускі Батальён СС, Мялешка адным з першых уступіў у ягоныя шэрагі і, дзякуючы сваёй інтэлігенцыі, сваім здольнасьцям і адвазе, заслужыў тут хутка як найлепшае прызнаньне начальства і любоў таварышоў і жаўнераў. Выконваючы як найлепей свае абавязкі жаўнера, ён вельмі цікавіўся і ўсімі праявамі беларускага жыцьця наагул, горача бяручы да сэрца ўсё добрае і благое, што сустракала нашую Радзіму. Па старой памяці (ён быў некаторы час рэдактарам вучнёўскага часапісу, які выдавалі вучні Віленскай Беларускай Гімназіі), ён вельмі цікавіўся беларускім друкам і часта дасылаў артыкулы, нарысы і карэспандэнцыі ў сяньняшнюю беларускую прэсу. Сьмерць сустрэла яго ў лесе, у часе змаганьня з ворагамі і памёр ён спакойна, мужна, як сапраўдны змагар за шчасьце Беларускага краю.

Жаўнер Курсуновіч Аляксандар, які нарадзіўся 15-га лістапада 1921 году ў Вічытараве, Стаўпецкага павету, загінуў таксама надзвычай геройскай сьмерцяй. Убачыўшы, што ўлюбёны ягоны камандзер — лейтэнант Мялешка цяжка ранены, ён, не зважаючы на абстрэл, падпоўз да яго і пад дажджом варожых куляў пачаў перавязваць ягоную сьмяротную, нажаль, рану. Так ён і загінуў пры целе свайго камандзера, якога ён з такою жаўнерскаю адвагаю прабаваў ратаваць ад сьмерці.

Чэсьць-жа і слава сьветлай памяці беларускіх жаўнераў! Гінуць змагары, але жыве Беларусь!

З запісак этнаграфа.

# Сьвята ў чэсьць мядзьведзя

Яшчэ ў канцы мінулага стагодзьдзя ў паўночнай Барысаўшчыне народ наш на пярэдадні Зьвеставаньня ладзіў сваеасаблівае сьвята ў чэсьць мядзьведзя.

На гэты дзень падрыхтоўвалі адмысловыя стравы, а менавіта: на першае — сушоны рэпнік у знак гэтага, што мядзьведзь харчуецца звычайна расьцінамі; на другое — кісель, таму што мядзьведзь любіць авёс; на трэйцяе — гарохавыя камы, дзеля чаго і сам дзень завецца «Камаедзіца».

Пасьля абеду ўсе старыя і малыя кладуцца, але ня сьпяць а толькі што хвіліну, самым павольным спосабам пераварочваюцца з боку на бок, стараючыся рабіць гэта ў падобны спосаб, як робіць гэта мядзьведзь у сваім бярлогу. Гэткая працэдура трывае каля дзьвюх гадзінаў і ўсё гэта робіцца таму, каб мядзьведзь лёгка ўстаў з свайго зімовага бярлогу. Пасьля гэтага сяляне ўжо не займаліся сваімі штадзённымі працамі — сьвяткавалі. Вядома, што паводле запэўненьня нашых сялян, мядзьведзь прабуджаецца з свайго зімовага сну на Зьвеставаньне і выходзіць з бярлогу. Вось і сустракалі яго з добрымі пажаданьнямі.

Пачатак свой мае гэтае сьвята бяз сумліву яшчэ з часоў да-хрысьціянскіх і зьяўляецца довадам, што ў гэтых мясцовасьцях продкі нашыя аддавалі культ мядзьведзю. У мясцовасьцях гэтых былі вялікія лясы і непраходныя пушчы, у якіх разводзілася шмат дзікіх зьвяроў, з якіх мядзьведзь сваёй сілаю і ростам наводзіў страх на людзей. Апрача гэтага ён рабіў шмат шкоды зьнішчаючы хатнюю жывёлу. Таму каб уміласьцівіць яго, жыхары гэтых мясцовасьцяў пачалі ўшаноўваць мядзьведзя. Довадам гэтага ёсьць хаця-бы і вышэй апісанае сьвята — Камаедзіца.



Пінск. Касьцёл а. а. Езуітаў

Гаравалі, бедавалі, жабракамі сталіся. Ня можам жыць далей так. Навучы нас, дзе праўду знайсьці.

— Добра, кажа той гіцаль, — я пакажу вам праўду. Вёў ён братоў, вёў і ўвёў у вялізарную, вялізарную камяніцу. Вадзілі там братоў, вадзілі і ўвялі ў малюсенькую каморку. Сядзелі браты год, другі, шмат гадоў сядзелі, а далей давай ратунку прасіць. Прасілі тыдзень, другі, месяц прасілі, некалькі гадоў прасілі. Прыйшоў потым той самы гіцаль ды пытае:

— Ну што, праўду знайшлі ці не?

— Знайшлі, убачылі... таварыш... Пусьціце жывымі дадому. Вырваліся браты з каморкі і — дай Божа ногі...

Ішлі яны тыдзень, другі, ішлі месяц, зноў — пустка і пустка. Ішлі, ішлі і нарэшце ўбачылі шмат-шмат незнаёмых іхнаму воку будынкаў на круглым пляцы. Пляц абгароджаны высокім плотам, над плотам — калючы дрот умітуські. Каля плоту — людзі са стрэльбамі стаяць, трасуцца.

— Хто вы такія, адкуль і чаго шукаеце — папытаўся адзін пры стрэльбе пры ўваходзе на пляц.

Усё чысьценька расказалі браты чалавеку, а ён і кажа: — Ідзеце, ідзеце, тут знойдзеце праўду...

Падыйшла нейкая вострая галава з акулярамі дый кажа:

— Я навучу вас, як знайсьці праўду: пажывеце, паварочайце горы і долы, падзяўбеце ўсе камені нашыя і знойдзеце праўду...

Варочалі браты долы і горы, дзяўблі камені, шмат гадоў дзяўблі, рукі паадбівалі, гарбы новыя панажывалі, а праўду так і не напаткалі. Прыходзіць потым тая галава з акулярамі і пытае:

— Ну што, праўду знайшлі ці не?

— Знайшлі, убачылі... таварыш... Пусьціце жывымі дадому.

Вырваліся браты з таго драцянога плугу — і дай Божа ногі...

Ідуць браты, ідуць, ажно чуюць — бурчыць пачэпленае нешта на рагу. Сталі, прыслухаліся.

— Вялікі таварыш Сталін, наш родны бацька, працягваючы далей Леніна, робіць вялікі пералом і не спыняецца ні перад якімі цяжкасьцямі. Ён — чалавек вялікага, глыбокага сэрца, у сэрцы ягоным знаходзіць месца ўсё людзкое... Ён выдатна ўмее вылечваць хваробы людзкіх думак і настрояў. Ён так шмат мае адусюль лістоў і скаргаў, што ня ўпраўляюцца нават праглядаць іх усе найбліжэйшыя ягоныя супрацоўнікі...

— Ага, — сказаў брат малодшы сваім братом, цяперака дык відаць на сьлед натрапілі.

— А колькі выхадзілі, — заўважыў брат старэйшы.

Перахрысьціліся браты і пайшлі далей. Ішлі тыдзень, другі, месяц ішлі. Доўга ішлі да «вялікага і глыбокага» сэрца бацькі роднага... Доўга ішлі браты, а яшчэ больш шукалі ды ня толькі шукалі, а і доўга, доўга пыталіся, дзе жыве «бацька родны». Папытаецца старэйшы брат у чалавека, а той зірне і, нічога не сказаўшы, махне рукою.

— Ня быў-бы то вялікі чалавек. Мясьціну ягоную ў сакрэце трымаюць, — сказаў брат сярэдні.

Пайшлі далей. Ішлі, ішлі і ўзыйшлі на пляц вялікага, вялікага гораду. Глядзяць браты на сьцены будыніны і нічога ня бачаць. Бачаць толькі сьцяну — вялікую, каменную, зубчатую. А каля сьцяны зноў людзі са стрэльбамі, але ўжо іншыя: высачэзныя, воўкам пазіраюць на усіх.

Тупалі браты, тупалі, прасіліся, прасіліся і нарэшце пусьцілі іх.

Адмыкалі трыццаць дзьвярэй, вадзілі па трыццаці калідорах, пыталіся пра іх у трыццаці пакоях; напісалі браты па трыццаць паперак. Давалі трыццаць абяцанак. Увайшлі можа ў саракавы пакой, а там, трымаючы па трыццаць іхных папераў, чалавек сказаў:

— Пойдзем да самога бацькі...

Увайшлі ў вялізарную клець, як упрыгожаную гасподу. На сьценах — Ленін і Сталін, Сталін і Ленін...

Сядзіць ля вялізарнага, чырвонага стала чалавек, азызлы, чорны, вочы чорныя, злыя, вусы чорныя, даўгія, бы тыя клешні ракавы.

— Хто вы такія, адкуль і чаго шукаеце, — запытаўся той бацька ў братоў.

Гаварылі ўсе: старэйшы, сярэдні і малодшы. Шмат гаварылі, аж языкі намазолілі.

Усё чысьценька расказалі браты: пра цяперашняе, пра сваё падарожжа расказалі.

— Шчасьце вашае — у маёй навуцы, няшчасьце ў вашай — цікавасьць і даходлівасьць. Вашае права — слухаць мяне, працаваць і маўчаць. У гэтым і палягае праўда. Ідзеце дадому, раскажэце ўсім пра маю навуку і настаўленьне. Не паслухаюць — блага будзе.

Вярнуліся браты дадому і пачалі патаемна расказваць людзям пра тое, што яны дзе бачылі, ды чулі, бацькаву навуку і праўду доўга-доўга расказвалі. Браты расказваюць, а дзесяць слухаюць і за галовы бяруцца. І пайшла праўда братоў па зямлі беларускай, пайшла па ўсім сьвеце. Не ў Маскву, не да Сталіна, а да трох братоў ішлі людзі і пыталіся пра жыцьцё-быцьцё, ішлі, каб пазнаць праўдзівую праўду.

Ішла праўда братоў у вёскі пакалечаныя, у гарады прыгнечаныя — усюды ішла праўда і клікала на змаганьне з няпраўдаю, з няволяю маскоўскаю, з навукаю craлінаваю ды жыдоўскаю. Праўда хадзіла, хадзіла і выйшла нарэшце наверх. Пачалося змаганьне, а першымі ў ім былі тры браты.

Затраслася зямля, рассыпалася ленінска - сталінская, жыдоўска - бальшавіцкая праўда і гарачыя языкі полымя зьлізалі яе навечна. Ад таго часу народ наш не працуе больш на чужынцаў - жыдзюкоў і людаедаў - бальшавікоў, гарбоў не нажывае, зямлі сьлязьмі не палівае, не галее і не гаруе, а на сваёй зямельцы сам на сябе працуе.

# Весткі з Бацькаўшчыны

### ПРЭЧ З БАЛЬШАВІЗМАМ!

У Міры (Баранавіцкая акруга) нядаўна адбыўся масавы сход. На пляцы каля Паветавай Управы сабраліся з усіх куткоў павету сяляне, інтэлігенцыя, работнікі і ўрадоўцы. Шматлікія прамоўцы прыпомнілі сабраным часы жахлівага панаваньня жыдабальшавізму на нашых землях, у выніку якога большая частка інтэлігенцыі і сялянства загінула ў капцюрох НКВД. Сабраныя ўзбуджаныя ненавісьцю і помстай выказвалі станоўкі пратэст намерам забойцы Сталіна ізноў налажыць сваё цяжкое ярмо на наш народ.

Цікава была прамова прадстаўніка беларускае паліцыі, які раней быў у «партызанах» а пасьля дабраахвотна перайшоў у паліцыю, дзе цяпер актыўна змагаецца супроць бандытызму і за сваю дзейнасьць узнагароджаны адзнакай за заслугі для ўсходніх народаў. Ён шмат расказаў пра зьдзекі бальшавіцкіх бандытаў над мірным беларускім жыхарствам. На заканчэньне прамоўца сказаў: «Калі наш народ сваім голасам заяўляе станоўкі пратэст намаганьням Сталіна і ягонай жыдоўскай хэўры, дык мы беларуская паліцыя пратэстуем сілаю нашае зброі. Мы верым у сілу нямецкае арміі і ўпэўнены ў тым, што перамога будзе на баку Новае Эўропы».

### АД СТАРОГА ДА МАЛОГА ВОЗЬМЕМ ЗБРОЮ...

Нядаўна ў Гарадзішчы (Баранавіцкая акруга) у Беларускім Доме Культуры сабралася больш за 2000 прадстаўнікоў, беларускага сялянства і працоўнай інтэлігенцыі.

Пасьля выступленьняў шматлікіх прамоўцаў, сабранымі быў вынесены пратэст супроць намераў Сталіна і ягонае жыдоўскае хэўры наступнага зьместу:

«Мы далучаемся да голасу пратэсту ўсяго беларускага народу. Сталін і жыдоўская кліка мяркуюць налажыць крывавую руку на нашую Бацькаўшчыну. Яны хочуць сялянству накінуць калгасную няволю, каб ператварыць іх у жабракоў-нявольнікаў. Мы добра памятаем бальшавікоў у нас на бацькаўшчыне. За кароткі час панаваньня тысячы лепшых сялян, інтэлігенцыі былі высланыя ў далёкі Сібір, або расстрэленыя. Няма такой сям'і, якая-б не пацярпела ад НКВД. Яшчэ сяньня ня высахлі сьлёзы вялікага гора прынесенага бальшавікамі беларускаму народу. Беларускі народ усімі магчымымі сродкамі будзе бараніцца, каб не дапусьціць бальшавіцкага панаваньня ў нашай Бацькаўшчыне.

Мы заяўляем рашуча, што ад малога да старога возьмем зброю і разам з нямецкім народам будзем змагацца да поўнае перамогі над жыда-бальшавізмам.

Слава нямецкай арміі, вызваліўшай Беларусь ад бальшавізму!

Жыве Беларусь!»

### УЖО НЯ СПЫНЯЦЬ...

Найбольш уцісканым палякамі было беларускае Падляшша. Там польскі ўрад пробаваў выкараніць нават назоў беларус. Сяньня, дзякуючы прыхільным адносінам нямецкіх уладаў на Падляшшы шырока ідзе нацыянальнае адраджэньне. На ўсім Падляшшы дзеюць дэлегатуры Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Гэнэрал Губэрнатарстве. У валасьцёх Падляшша ўрадуюць старшыні-беларусы. На ўрадах красуюцца беларускія вывескі. У сьвятынях гучыць беларуская мова.

Азьвярэлыя ворагі беларускага народу пробуюць часам пры дапамозе тэрору спыніць беларускі рух, але дарма — збуджанага народу ўжо ім не спыніць.

### РУХ ЖЫХАРСТВА Ў БАРАНАВІЧАХ

У Мэтрыкальным Урадзе ў Баранавічах у сьнежні 1943 г. зарэгістравана 36 нараджэньняў, 44 выпадкаў сьмерці (у тым ліку 23 уцекачоў) і 14 шлюбаў. Усяго ў 1943 годзе зарэгістравана 380 нараджэньняў, 435 выпадкаў сьмерці і 136 шлюбаў.

### ДРАМА «ХАМ» НА БАРАНАВІЦКАЙ СЦЭНЕ

9-га студзеня на сцэне Беларускага Дому Культуры ў Баранавічах упяршыню была пастаўлена драма Э. Арэшчыхі «Хам». П'еса, дзякуючы належнай апрацоўцы рэжысэра сп. В. Шаха і адпаведнаму падбору артыстых, робіць вельмі добрае ўражаньне і карыстаецца вялікім посьпехам.

Баранавіцкія артысты ўжо даўно перарасьлі аматарскі ўзровень.

### БЕЛАРУСЬ ЗМАГАЕЦЦА З БАЛЬШАВІЗМАМ

У выніку скарачэньня фронту, усходнія часьціны беларускіх земляў, як Смаленшчына, Браншчына, Гомельшчына апынуліся ізноў пад савецкім ярмом. Але беларусы Смаленшчыны і Гомельшчыны ня хочуць пакорна ўкладаць сваю шыю ў жыдоўска-бальшавіцкае ярмо. Яны з зброяй у руках пайшлі ў лес, адкуль і далей змагаюцца з бальшавіцкімі акупантамі.

Аддзелы беларускіх партызанаў зьяўляюцца страхам тылавых бальшавіцкіх уладаў. Яны нападаюць на камісараў НКВД, мінуюць дарогі, чыгуначныя шляхі, захопліваюць абозы.

Паводле апошніх дадзеных, шырокі партызанскі беларускі рух пашырыўся асабліва ў раёне паміж Гомелям і Клінцамі. Таксама буйныя іх групы стаяць у лясных раёнах на ўсход ад Магілёва. Шмат беларускіх партызанскіх аддзелаў знаходзіцца і ў лясох Браншчыны.

Ад бальшавіцкага тэрору, ад мабілізацыі і вывожваньня на працу, у лес да беларускіх партызанаў уцякаюць усе мужчыны, якія засталіся ў захопленых бальшавікамі раёнах.

Бальшавікі вымушаны кідаць супроць гэтых партызанаў вялікія вайсковыя часткі.

Цікава, што да беларускіх партызанаў уцякаюць былыя савецкія партызаны, пабачыўшы, як прынялі іх бальшавікі.

Партызанскі беларускі рух супроць бальшавікоў у Смаленшчыне, Магілёўшчыне і Гомельшчыне што-раз павялічваецца.

## Плянэты, якія можна будзе бачыць у 1944 годзе

**Мэркуры.** Гэтая плянэта апыніцца ў найвялікшай усходняй адлегласьці ад сонца ў наступным часе: 12-га красавіка, 10-га жніўня і 5-га сьнежня, пасьля чаго яна станецца вячэрняй зоркай. У найвялікшай заходняй адлегласьці ад сонца апыніцца яна 31-га студзеня, 29-га траўня і 22-га верасьня, пасьля чаго яна станецца раньняй зоркай.

**Вэнэра.** Плянэта на пачатку году паяўляецца, як раньняя зорка, але яе цяжка пабачыць. У канцы чэрвеня яна знаходзіцца ў найвышэйшай канстэляцыі з сонцам і тады становіцца вячэрняй зоркай. Пад канец году яна заходзіць 2 гадзіны пасьля захаду сонца.

**Марс.** На пачатку году гэтая плянэта знаходзіцца ў сузор'і Быка і на працягу году праходзіць парз сузор'е Блізьняцоў, Рака, Льва і Дзевы. У першай палавіне году яе можна бачыць на неба вечарам.

**Юпітэр.** На пачатку году плянэта знаходзіцца ў сузор'і Льва недалёка ад яснае зоркі Рэгулюса і яе можна бачыць у першай палавіне году вечарам на небе. Каля канца году паяўляецце яна ізноў на раньнім небасхіле і пераходзіць у сузор'е Дзевы.

**Сатурн.** Плянэта знаходзіцца на пачатку году ў сузор'і Быка і пасоўваецца на працягу году да Блізьняцоў. У першых месяцах году яе можна бачыць на вячэрнім небе, а таксама і ў апошніх месяцах году.

**Зацьменьні.** У 1944 годзе будуць два зацьменьні сонца, адно поўнае 25-га студзеня і адно ў форме пярсьценя 20-га ліпеня, але іх у сярэдняй Эўропе нельга будзе бачыць.

# ГАСПАДАРСКАЯ ХРОНІКА

### ЗБОР ЛЕКАВЫХ ЗЁЛАК У БЕЛАРУСІ

Патрэба ў фармацэўтычных і лекавых сродках асабліва ўзрастае падчас вайны. Таму збор зёлак як лекавай сыравіны ў сяньняшнія часы мае вялікае значэньне.

Акцыя зьбіраньня лекавых зёлак у Гэнэральнай Акрузе Беларусі ў 1943 годзе дала незвычайна добрыя вынікі. Здача зёлак на пункты скупу ў чэрвені, у параўнаньні з 1942 г. значна павялічылася. Жнівень прынёс ужо больш за 500 тон. Як добра праводзіўся збор, паказвае колькасьць сабранае кары крушыны — 300 тонаў. Гэта ў 30 разоў больш, як летась.

### ПРАДУКЦЫЯ СЫРУ Ў БЕЛАРУСІ

Дзеля лепшага выкарыстаньня ў малачарнях малочнага адгону, узімку 1943—44 году былі зроблены з боку нямецкага сельска - гаспадарскага кіраўніцтва неабходныя падрыхтаваньні. Дзякуючы гэтаму ў Гэнэральнай Акрузе Беларусі ў сёлетнім гаспадарскім гэты перагон улетку маюць быць праведзены далейшыя мерапрыемствы. гэты пеаргон улетку маюць быць праведзяны далейшыя мерапрыемствы. Побач цьвёрдага Тыльзыцкага гатунку павінен цяпер выврабляцца таксама сыр гатунку Гарц. Каб вывучыць беларускія фаховыя сілы, на працягу зімы пры малачарні ў Менску будуць праведзеныя адмысловыя курсы.

## Прыватызацыя дамоў на Беларусі

Асновай прыватызацыі дамоў, або інакш кажучы, прызнаньня права собскасьці на зямельныя дзялянкі ў гарадох і мястэчках на абшары Гэнэральнага Камісарыяту Беларусі, зьяўляецца дэклярацыя Райхсміністра Усходу Розэнбэрга ад 3-га чэрвеня 1943 г. Як ведама, бальшавікі скасавалі прыватную собскасьць на зямлю, аб'явілі нацыяналізацыю зямлі, паводле якой, уся зямля бяз вынятку зрабілася собскасьцю дзяржавы. Усе зямельныя дзялянкі ў гарадох і мястэчках таксама зрабіліся дзяржаўнай собскасьцю. Адносна дамоў і іншых будынкаў, дык вялікшыя дамы, вялічынёю больш як 113 квадратных мэтраў карыснай жыльлёвай плошчы, былі або знацыяналізаваныя, абвешчаныя собскасьцю дзяржавы, або змуніцыпалізаваныя — перададзеныя ў карыстаньне самаўрадаў.

Толькі там, дзе карысная жыльлёвая плошча не перавысіла 113 кв. мэтраў, дамаўладаньні засталіся собскасьцю папярэдніх гаспадароў, лічучы аднак, што яны пабудаваныя на дзяржаўнай зямлі. У некаторых выпадках, калі бальшавікі былі зацікаўленыя ў тым, каб адабраць і такія меншыя дамы, яны іх ацэньвалі больш як на 10.000 рублёў і муніцыпалізавалі, або яшчэ прасьцей, высылалі гаспадароў як ворагаў народу, забіраючы сабе іх собскасьць.

Нямецкія ўлады пастанавілі адмяніць зробленую бальшавікамі нацыяналізацыю і муніцыпалізацыю зямельных дзялянак і паступова правесьці зварот гэтых дзялянак іх папярэднім собсьнікам і ўпісаць іх права собскасьці ў гіпатэчныя кнігі. З гэтаю мэтаю ў кажнай акрузе зарганізавана гіпатэчныя ўрады. У першую чаргу будуць прыватызаваныя тыя дамы, якія займаюць плошчу да 300 кв. мэтраў. Аднак і дамы з большаю як 300 кв. мэтараў плошчаю з дазволу акруговага камісара могуць быць прызнаныя прыватнаю собскасьцю.

У шмат якіх мясцох будынкі стаяць на дзяржаўнай зямлі. На канфэрэнцыі судзьдзяў у Менску 10 і 11 сьнежня 1943 г. высьнена, што існуе тэндэнцыя прызнаць собсьнікам дамоў права собскасьці і на дзяржаўныя пляцы пры гэтых забудаваньнях, так, што і гэтыя асобы могуць старацца каб іх права собскасьці было ўпісана ў гіпатэчную кнігу.

Многія на Беларусі маюць папярэднія довады сваей уласнасьці, прыкладам, купчыя лісты, выпіскі з польскіх гіпатэчных кнігаў і г. д. Аднак трэба сказаць, што толькі той будзе лічыцца собсьнікам, чыё права ўпісана ў цяперашнія зямельныя кнігі. Даўнейшыя довады собскасьці будуць мець значэньне толькі пабочных довадаў пры прыватызацыі, пры ўпісе ў цяперашнія гіпатэчныя кнігі.

Тэсті[illegible]

# ШУКАЮЦЬ

**Віктар Ціхановіч** просіць усіх сваіх сяброў і знаёмых пісаць па адрасу: Arnstedt über Aschersleben.

**Кацю Сухадольскую** і **Зосю Сухадольскую** з вёскі Варонілавічы, Ражанскага раёну, шукае **Sciapan Korycki,** bei Joseph Rex, in Scharing bei Seeburg, Krs. Rössel, Ostpr.

Сына **Міхаіла Масненка,** з вёскі Сьцепанаўка, Сумскай вобл. выехаўшага ў Нямеччыну ў 1942 г., і знаходзіўшагася да апошняга часу ў Брандэнбургу, шукае **Sciapan Masnenko,** bei Schmidt, in Polkein bei Prossiten, Krs. Rössce, Ostpr.

Бацьку **Сяргея Іванавіча Рандова** шукае **Anotolij Rondow,** in Druktuhnen, Fischhausen, Krs. Samland, Ostpr.

Брата **Ільлю Мініна,** з вёскі Лямніца, Суражскага раёну, Віцебскай вобл. шукае **Liaksej Karlow,** Muhlenbarbeck, Kellinghussan, Holstein.

**Аляксандру Краінік** з в. Негрымава, Наваградзкага раёну, Баранавіцкай вобласьці, шукае **Baris Krainik,** bei Hermann Schulz, Zielow, Post Röbel, Krs. Waren, Meckl.

Жонку **Соллюніду Петухову,** дзяцей Івана, Віктара, Елену і Ксеню, эвакуаваных із пасёлку Новыя Ключы Карачаўскага раёну, Арлоўскай вобл. шукае **Iwan Petuchow,** bei Fraude, in Plompen, Post Weidlacken, Krs. Wehlau, Ostpr.

Дачку **Варвару Аляксееўну Сьметаньнікаву,** эвакуаваную із сяла Трыкоўка, Карачаўскага раёну, Арлоўскай вобл. шукае **Akulina Smetannikowa,** bei Fraude, in Plompen, Post Weidlacken, Krs. Wehlau, Ostpr.

Мужа **Арсеня Пятровіча Антонава,** эвакуаванага із сяла Вярхоўка, Карачаўскага раёну, Арлоўскай вобл. шукае **Natalia Antonowa,** bei Fraude, in Plompen, Post Weidlacken, Krs. Wachlau, Ostpr.

Усіх знаёмых з сяла Вулкі, пав. Дабрамышча (Слонім) шукае **Stasia Litwinowitsch,** bei Albert, Greps Nr. 6, Post Malis, Krs. Ludwigslust, Meckl.

Сына **Антона Якаўлевіча Адарыч,** выехаўшага ў Нямеччыну ў лютым месяцы мінулага году, шукае маці **Nadi Adaritsch,** in Dorf Meschnaia Slabada, Rayon Kleck, in Baranowitsche.

Маці сваю **Варвару Ігараўну Волкаву** і сясьцёр **Надзежду, Марыю і Аляксандру Волкавых,** шукае **Anna Wolkowa,** bei Morgnardt, in Druktheinen, Fischhausen, Ostpr.

Сястру **Анэту Вечэру** шукае Люба Яфімовіч. Пісаць па адрасу: **Luba Jafimowitsch,** Gaensefert bei Heklingen, Anhalt.

Стрыечную сястру **Валю Вайцюлан,** якая нядаўна прыехала на працу ў Нямеччыну, шукае **Bruno Wasiewitsch** bei Ludik Kunzel, Nagelfabrik Argberg in Bayern.

**Сымон Язута,** з вёскі Кломпікі, воласьці Крошынскай, Гарадзіцкага павету, акругі Баранавіцкай, просіць усіх сяброў і знаёмых адгукнуцца па адрысу: **Siamen Jasuta,** Ostlager Soest, Brilonerstr., Westf.

Жонку **Марыю Іваноўскую** з 3-мя малымі дзяцьмі, шукае **Jasep Iwanowski,** Edemissen, Nr. 13, Krs. Peine, Hannover.

Свайго дзядзьку **Аляксандру Пішко** з вёскі Стрэўка, пав. Саколка, які ў 1941 годзе быў забраны бальшавікамі да работы на вайсковыя аб'екты, шукае **Serafina Pischko,** in Juttchen, Krs. Ebenwode.

Усіх родных і знаёмых з Сінькінят, гм. Трабы, пав. Валожына просіць пісаць **Віктар Ціхановіч** па адрасу: **Wiktar Cichanowitsch,** Arnstedt üb. Aschersleben.

Усіх родных і сяброў з вёскі Іжа, Войстамскай гміны, Вялейскага павету просіць пісаць **Мікалай Верамей па адрасу: Mikalaj Weramej,** in Mühlenau bei Altlinde, Angerapp, üb. Istenburg II, Ostpr.

**Міхася Бурымскага** і ўсіх знаёмых з Наваградчыны шукае **Winces Soltan,** Emersleben 84, Krs. Oschersleben.

**На прэсавы фонд «Раніцы» зпажылі: —** Аляксандар Пліс — 10 м

**На беларускіх сірот:** — Перкоўскі Фр. - 20 м.

За рэдактара — **Станіслаў Грынкевіч.**

**Hauptschriftleiter und für den Inhalt verantwortlich: Stanislaŭ Hrynkiewitsch,** Berlin NW 87, Schließfach 34. — Druck: Gebr. Radetzki, Berlin SW 68. Friedrichstraße 16.